




АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

26 студзеня 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 4 (2666)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


НАТАТКІ ЯЎГЕНА ЛЕЦКІ

## ДОТЫК ЖЫВОЙ ДУШЫ

**Вось і пераступілі парог 2000-га. Якім ён будзе для нас, людзей Беларусі, з дакладнасцю сказаць наўрад ці хто адважыцца. Спадзявацца, аднак, на штосьці выключнае, такое, што дазволіла б грамадзянам нашай краіны, у сваёй масе ад нястач і жыццёвых згрызот спакутаваным і зняверанымі, не даводзіцца. Але люд Беларусі не страчвае веры ў будучыню, кажучы: "Неяк жа яно будзе", або і больш бадзёра і ўпэўнена: "Будам жыць!" Апошні вокліч, як вядома, стаўся нават назвай адной з кніг слаўнага беларуса з Масквы Аляксея Каўкі.**

**Пажадаць дабра і шчасця — самы, бадай, дарагі перадсвяточны падарунак, даступны абсалютна ўсім, хто мае жывую душу. Тым больш шчодрыя пажаданні шчасця долі актуальныя і дарагія напярэдадні новага стагоддзя і тысячагоддзя. І я меў радасць пачуць па тэлефоне і атрымаць віншавальныя паштоўкі ад дзесяткаў сяброў і знаёмых, у тым ліку і нашых суродзічаў з далёкага і блізкага замежжа.**

(Заканчэнне на 6-й —7-й стар.).

ВІНШУЕМ!

### «ЗА ДУХОЎНАЕ АДРАДЖЭННЕ»

Падзеяй у мастацкім жыцці краіны стала ўзнагароджанне дзеячаў культуры і мастацтва за іх заслугі і дасягненні. Лепшым з лепшых былі ўручаны спецыяльныя прэміі кіраўніка дзяржавы і прэміі "За духоўнае адраджэнне", заснаваныя Міністэрствам культуры і Беларускім экзархатам. Сярод новых уладальнікаў прэмій — мастацкі кіраўнік "Беларускай капэлы" Віктар Скорабагатаў, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі, скульптар Уладзімір Лятун, прыма-балерына Нацыянальнага тэатра балета Кацярына Фадзеева.

У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ

### МУЗЕЙ У РАЎБІЧАХ

**Чалавек, які пражыў большую частку свайго жыцця, абавязкова пачынае цікавіцца адносінамі да сябе сваіх дзяцей і ўнукаў. У гэты час з куткоў яго памяці ўсё часцей выплываюць успаміны пра бацькоў і дзядоў, іх жыццёвую мудрасць і ўменне ўсё ў гэтым жыцці абгрунтаваць. Сама па сабе прыходзіць пара падвесці вынікі свайго жыцця. Што пасля мяне застанецца! Ці магчыма быць спакойным за сваіх дзяцей і ўнукаў?**



ЗІМА-ЗАБАВА

Пятрусь БРОЎКА

Прыемна праімчацца ўзімку,
З-пад капытоў клубкі-камы,
Не знаю гарачэй абдымкаў
За тых, што ў нашае зімы.

Імчыш. За лесам за высокім
Мільгае месяц, што ліхтар,
Мароз як пацалуе ў шчокі,
Аж усяго кідае ў жар.

СПОРТ

**ТЭНІС.** Максім Мірны адкрыў 2000-ны год чарговай перамогай на тэнісным турніры ў Доху.

У парным разрадзе разам з багамцам Маркам Ноўлзам ён у чвэрцьфінале абыграў трэцюю пару турніру, у паўфінале — другую, а ў фінале — першую (амерыканцаў Алекса О'Браяна і Джэрада Палмера).

**ФРЫСТАЙЛ.** На паўночнаамерыканскіх этапах Кубка свету па фрыстайлу выдатна выступілі беларускія мужчыны. Аляксей Грышын пасля выканання двух скачкоў уступіў толькі амерыканцу Паку, а Дзмітрый Дашчынскі — на чацвёртым месцы.

Не зусім удала склалася выступленне ў Алы Цупер, якая заняла толькі дзесяты радок турніру.

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** У Маскве завяршыліся традыцыйныя спаборніцтвы серыі "Гран-пры" па настольным тэнісе. Беларускую каманду на турніры прадстаўляла толькі адна Таццяна Лагацкая. У адзіночным разрадзе мінчанка паднялася на другую прыступку п'едэстала гонару, а ў парным разрадзе з расіянкай Аксанай Кушч заваявала залаты медаль турніру.

**ТАЙЛАНДСКІ БОКС.** Бліскучую перамогу атрымала беларуская зборная на чэмпіянаце Свету па тайландскаму боксу ў Мінску. Ва ўсіх пяці паядынках беларускія спартсмены ўпэўнена перамаглі каманду ЗША.

НА ЗДЫМКУ: чэмпіён свету Дзмітрый ШАКУТА (у цэнтры).

**Каця МАЗАКОВА.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**




КРОК ПРАЗ СТАГОДДЗЕ

## ПРАВІНЦЫЯ — НЕ ЗНАЧЫЦЬ ЗАНЯДБАНАСЦЬ

**У апошні час стала модна дакараць школу, настаўнікаў. Вельмі крыўдна такое чуць. Бо звычайна сваё невуцтва апраўдваюць немайстэрствам настаўніка тыя, хто сам нічога зрабіць не здольны і толькі чакае, каб яго цягнулі за вушы.**

**Лічу, наша беларуская школа моцная традыцыямі. У гэтым я яшчэ раз пераканалася падчас сваёй паездкі ў адну з найстарэйшых навучальных устаноў краіны.**

...Ішла па вузкіх, звычайных школьных калідорах, але заставалася пачуццё, якое ўзнікае ў доме вельмі добрай гаспадыні: вакол утульнасць, дагледжанасць, панаванне, як цяпер гавораць, добрай аўры. Можа, дзякуючы дзіцячым малюнкам на сценах, кветкам...

Дырэктар школы — Лілія Сакалоўская. Яна з тых, пра каго з першага моманту скажаш: чалавек надзейны. Больш цеснае знаёмства толькі пацвердзіла ўражанне. Лілія Іванаўна літаральна жыве сваёй школай. Яна аддае ёй душу, здароўе, ахвяруе ўласным вольным часам. У выніку школа добра адрамантавана, адноўлена. "Яна і не можа быць іншай, бо яна № 1", — жартуе дырэктар.

(Заканчэнне на 2-й—3-й стар.).



**ГІДРАМЕТЭАСЛУЖБЕ КРАІНЫ — 75**



# НАДВОР'Е — СПРАВА БОЖАЯ І ЧАЛАВЕЧАЯ

*Памятаеце класічнае: калі няма пра што гаварыць, распачынаецца размова пра надвор'е: "Зноў снег пайшоў..." — "Так, вельмі холадна..." Пагаварылі...*

*Сёння абмеркаванне сінаптычных праблем выклікае ў грамадзян па-сапраўднаму шчырую і жывую цікавасць (варта згадаць інфармацыйны бум падчас ураганаў у Заходняй Еўропе). Гэта можа пацвердзіць і высокі сінаптычны прафесіянал — Тамара ЦЯРЭШЧАНКА, кіраўнік рэспубліканскага Гідраметцэнтра.*

**— Тамара Рыгораўна, сярод шырокай публікі больш прынята час ад часу сварыцца на сіноптыкаў...**

— Не без гэтага, канешне. Разам з тым, калі я і мае калегі прымалі ўдзел у тэлепраграме "Добрай раніцы, Беларусь", атрымалі шмат добразычлівых субяседнікаў — тэлегледачоў. Людзей вельмі хвалюе ўсё, што звязана з надвор'ем: сёння хапае прыродных катаклізмаў, вынікі якіх напрамую звязаны з жыццём практычна кожнага з нас.

**— Мяркуючы па ўсім, кожная ваша раніца павінна пачынацца з думкі: ну як там у нас з надвор'ем?**

— Правільна, а дакладней, прыходзіцца думаць пра гэта і днём, і ноччу. І не толькі мне. Адна з супрацоўніц Гідраметцэнтра скардзілася: выходжу на вуліцу — дождж. Здаецца, і не трэба ён зусім, а прыемна, бо напярэдадні мы яго прадказалі...

**— Як часта вашы прагнозы не спраўджваюцца?**

— Досыць рэдка, але здараецца. Аднойчы еду з працы дадому без парасона: дажджу не чакала. А ён тут як тут. Стаю, мокну на аўтобусным прыпынку. Спагадлівая жанчына паклікала пад свой парасон схавацца. Я ёй падзякавала, а самой смешна: ведала б, каго пашкадавала...

А *наогул дакладнасць* прагнозаў у нас адпавядае сусветным стандартам: па тэрыторыях — 90—93 працэнты, па асобных пунктах — каля 85. Хачу падкрэсліць: выдаваць стопрацэнтныя прагнозы — сінаптычныя, палітычныя, любыя іншыя — практычна нерэальна.

**— Якія пункты на зямлі аказваюць рашаючы ўплыў на беларускае надвор'е?**

— 70 працэнтаў — Атлантыка, але і тут не ўсё адназначна. Калі заходнія цыклоны перамяшчаюцца менавіта праз нашу тэрыторыю — будзе дажджліва і холадна. Калі па поўначы, праз Скандынавію і далей, мы трапляем у іншыя сектары цыклону — і ў Беларусі цёпла і адносна суха. Калі паміж цыклонамі ўтвараецца вялікі разрыў, то ў зімовы час сюды можа зацякаць арктычнае паветра — і чакай моцнага пахаладання.

Могуць да нас прыходзіць і паўночна-заходнія цыклоны, якія звычайна нясуць моцныя вятры і ападкі. Найбольш небяспечны паўднёвы накірунак — з Міжземнага і Чорнага мораў. Гэтыя цыклоны прыносяць значныя ападкі, прыводзяць да смерчаў і шквалаў, бо ў зоне франтальных раздзелаў назіраецца вялікі перапад тэмператур.

З усходу надвор'е, так званае ультрапалярнае ўмяшанне — моцныя халады, мы атрымліваем не часта. Таксама рэдка паўднёвы цыклон спачатку выходзіць на Маскву, а потым робіць пятлю і рушыць на Прыбалтыку або да нас.

А ў цэлым існуе пэўны для рэгіёнаў парадак цыркуляцыі атмасферы, і ў кожным паўшар'і ўладарыць свой накірунак.

**— Тамара Рыгораўна, часта можна пачуць думку, што надвор'е ў Беларусі змянілася — пагоршылася. Ці могуць гэта пацвердзіць сіноптыкі?**

— У нейкай ступені — так, змянілася. Часам і я згадваю снегапады свайго дзяцінства. Але, з іншага боку, і зусім нядаўна нас таксама літаральна засыпала снегам. Ведаеце, калі праходзіць час, людзям уласціва бачыць мінулае не зусім такім, якім яно было на самай справе.

Беларускія сіноптыкі сёння валодаюць данымі назіранняў ужо больш, чым за стагоддзе — дарэчы, летась нашай Гідраметслужбе як цэнтралізаванай арганізацыі споўнілася 75 гадоў.

Дык вось, кліматолагі адзначаюць: за апошнія 10—11 гадоў пік холаду ў Беларусі змясціўся на пачатак зімы — лістапад-снежань. Акрамя таго, ужо можна казаць, што зімы сталі цяплейшымі, а лета больш халаднаватым. Але сярэднегадавая тэмпература — усё ж блізкая да паказчыкаў шматгадовых назіранняў.

**— А ці можа ў нас здарыцца якінебудзь тарнада?**

— Не, дзякуй Богу, не. Мы ж не ў трапічнай зоне.

**— А славутыя штармавыя папярэджанні, як часта даводзіцца іх даваць?**

— У мяне ёсць даныя за 1998 год: усяго было састаўлена 27 тысяч спецыялізаваных прагнозаў. Зарэгістравана 1 138 небяспечных і 14 стыхійных метэаралагічных з'яў, якія маглі выклікаць значны ўрон. Спраўджанасць небяспечных з'яў — 88 працэнтаў, стыхійных — 93 працэнты.

Дарэчы, сярод асноўных нашых праблем — адсутнасць патрэбнай колькасці аграметэаралагічных і практычна поўная адсутнасць гідралагічных пастоў назірання, адкуль найперш і павінна паступаць неабходная інфармацыя пра стан мясцовых земель, рэк, азёр, вадаёмаў. Раней усе гэтыя пасты ўтрымліваліся за кошт калгасаў і саўгасаў, тэрыторыі якіх абслугоўвалі. Зараз у гаспадарак на гэта грошай няма. Адсюль і новыя, дадатковыя страты.

**— А што можна сказаць пра тэхнічнае і матэрыяльнае аснашчэнне беларускай сінаптычнай службы?**

— Хацелася б большага. На станцыях — састарэлае абсталяванне і прыборы, якія даўно ўжо трэба мяняць. Набыць іх можна толькі за мяжой — у Расіі, Прыбалтыцы, на Украіне. Але адсутнасць неабходнага фінансавання не дазваляе нам гэта зрабіць. Адсюль церпіць і якасць прагнозаў. Аднак ёсць і станоўчыя вынікі. Адноўлены прыём спадарожнікавай інфармацыі, ідзе пераабсталяванне Дзяржкамгідрамета персанальнымі камп'ютэрамі, аснашчаны цэнтр тэлекамунікацый і апрацоўкі гідраметэаралагічнай інфармацыі найноўшым абсталяваннем, што дазваляе атрымліваць прагнастычныя карты і фактычны матэрыял усяго паўночнага паўшар'я з Міжнароднага гідраметэаралагічнага цэнтра ў Маскве, цэнтра ў нямецкім Офенбаху, з Вашынгтона і Вялікабрытаніі.

**— А як вы ставіцеся да папулярнасці народных прыкмет пра надвор'е?**

— Аддаю перавагу навуковым даным. Хаця, магу сказаць, некаторыя так званыя народныя прыкметы маюць пад сабою навуковую глебу — фізічную. Напрыклад, сонца садзіцца ў хмары — будзе дождж. І сапраўды: надвор'е, як я ўжо казала, ідзе да нас у асноўным з Атлантыкі. Або яшчэ: ластаўкі нізка лётаюць — таксама перад дажджом. І тут ёсць рацыя: перад дажджом павышаецца ўзровень вільготнасці ў паветры, насякомыя цяжэюць і апускаюцца ніжэй да зямлі, ну а ластаўкі — следам за імі...

**— Дзякуй, Тамара Рыгораўна, за гутарку, спадзяюся, нашы чытачы ў сваёй большасці, як і вы, нягледзячы ні на што, прытрымліваюцца вядомага аптымістычнага погляду: у прыроды не бывае дрэннага надвор'я...**

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ТОЛЬКІ ФАКТЫ

Дзяржаўны камітэт па гідраметэаралогіі — рэспубліканскае ведамства, якое забяспечвае органы дзяржаўнай улады і кіравання, галін эканомікі і насельніцтва данымі пра фактычны стан і чакаемыя змены надвор'я і іншых элементаў гідраметэаралагічнага рэжыму, а таксама пра хімічныя і радыеактыўныя забруджванні навакольнага асяроддзя.

Штодзённа ў Гідраметцэнтры Дзяржаўнага камітэта па гідраметэаралогіі распрацоўваецца звыш 70 спецыялізаваных прагнозаў надвор'я. На працягу года для сельскай гаспадаркі складаецца 18 відаў аграметэаралагічных прагнозаў, з іх 8 відаў прагнозаў сярэдняй абласной ураджайнасці, 7 відаў феналагічных, прагнозы запасаў вільгаці на вясну і прагнозы плошчаў азімых, шматгадовых траў вясною ў розным стане, выпускаюцца дэкадныя і месячныя бюлетэні, у якіх асвятляюцца асаблівасці аграметумоў перазімоўкі, у вегетацыйны перыяд — росту і развіцця сельскагаспадарчых культур, тэрмінаў правядзення палявых работ.

Акрамя таго, складаюцца і даводзяцца да арганізацый асноўныя віды гідралагічных прагнозаў — тэрмінаў ускрыцця рэк і максімальных узроўняў паводкі, веснавога прытоку вады ў вадасховішчах і гэтак далей. Рэгулярна складаюцца гідраметэаралагічныя бюлетэні, даведкі, праводзяцца кансультацыі наконт ужо існуючых і чакаемых гідраметэаралагічных умоў.

Усяго абслугоўваецца звыш чатырох тысяч народнагаспадарчых арганізацый. Вялікая ўвага надаецца забеспячэнню інфармацыяй пра надвор'е насельніцтва рэспублікі. З гэтай мэтай прагнозы надвор'я рознай своечасовасці перадаюцца да 30 разоў у суткі па рэспубліканскім радыё, 5 разоў па абласным, а таксама па рэспубліканскім і абласным тэлебачанні, шырока прадстаўлены ў друку. У Гідраметцэнтры складаюцца прагнозы надвор'я па Беларусі і перадаюцца ў Маскоўскі Міжнародны метэаралагічны цэнтр для далейшай перадачы па сістэме Еўрабачання і тэлепраграм СНД.

Для выканання сваіх асноўных функцый Дзяржаўны камітэт па гідраметэаралогіі ў сваім складзе мае ў Мінску Гідраметцэнтр, цэнтр радыяцыйнага кантролю і маніторынга прыроднага асяроддзя, цэнтр тэлесувязі, цэнтр апрацоўкі інфармацыі, у абласных гарадах рэспублікі — гідраметцэнтры са спецыялізаванымі лабараторыямі; на тэрыторыі рэспублікі ёсць каля 24 спецыялізаваных станцый і 33 метэаралагічныя станцыі, 134 гідралагічныя пасты, у трох гарадах (Мінску, Брэсце і Гомелі) устаноўлены метэаралагічныя радыёлакатары і аэралагічныя станцыі.

Назіральная сетка маніторынга забруджвання прыроднага асяроддзя забяспечвае пастаяннае назіранне за забруджваннем атмасфернага паветра ў 15 прамысловых гарадах на 45 стацыянарных пастах, паверхневых вод у 93 пунктах на 58 рэках, 10 азёрах і 5 вадасховішчах; забяспечваецца штодзённы дазіметрычны кантроль у 53 гарадах рэспублікі. Створана пастаянная рэперная сетка радыяцыйнага маніторынга, якая складаецца з 181 пункта назіранняў. У падраздзяленнях Дзяржаўнага камітэта па гідраметэаралогіі працуе каля 1 600 чалавек.

Вялікае навуковае і практычнае значэнне маюць базы даных розных відаў назіранняў за прыродным асяроддзем, што захоўваюцца ў Дзяржаўным камітэце па гідраметэаралогіі. Больш за 15 станцый маюць бесперапынныя назіранні на працягу 100 гадоў, з 1809 года вядуцца назіранні ў Магілёве, з 1849-га — у Мінску.

Сучасная гідраметслужба выкарыстоўвае ў сваёй працы інфармацыю ад штучных спадарожнікаў Зямлі. Кожныя тры гадзіны па сістэме глабальнай тэлесувязі Сусветнай Метэаралагічнай Арганізацыі ў Мінск паступае інфармацыя ад метэаралагічных і аэралагічных станцый Заходняй і Усходняй Еўропы, Блізкага Усходу. Інфармацыя ад назіральнай сеткі Дзяржаўнага камітэта па гідраметэаралогіі выкарыстоўваецца нацыянальнымі метэаслужбамі іншых краін.

# ЗАНЯДБАНАСЦЬ

дзяцей чыстыя, высокамаральныя адносіны, інакш атрымаем пакаленне без ідэалаў, маральна спустошанае. Цяпер, праўда, зазначыў ён, у Англіі вызначылася іншая тэндэнцыя. Лілія Іванаўна ўпэўнена, што тыя настаўнікі, якія прапагандуюць французскую сістэму адукацыі з яе аблегчанай праграмай і гуманітарным ухілам, не зацікаўлены ў будучыні нашай навукі, дзяржавы. Нават амерыканскі прэзідэнт у 1984 годзе выступіў са зваротам "Нацыя ў небяспецы", дзе ў ліку галоўных праблем назваў адукацыю і сказаў, што аблегчаная адукацыя — нацыянальная катастрофа.

— Зараз мы ў сваёй сістэме спалучылі ўсё лепшае, што назапашана ў мінулых праграмах, і сучасныя методыкі. І вынікі вельмі добрыя, — расказвае дырэктар. — У нас створаны кафедры, падобныя інстытуцкім, ёсць ліцэйскія класы па матэматыцы, эканоміцы, замежнай мове, з гэтага года — педагагічны клас на базе Мінскага педагагічнага універсітэта. Яго вучні будуць здаваць асеннюю, зімнюю, летнюю сесіі. Тых, хто атрымае добрыя і выдатныя адзнакі, без уступных экзаменаў залічаць у вышэйшую навучальную ўстанову. Так што ў вучняў правінцыяльнай школы добрыя магчымасці без паслуг рэпетытараў (на якіх не ва ўсіх бацькоў знойдуцца грошы) атрымаць сучасную адукацыю. Летась 38 працэнтаў нашых выпускнікоў сталі студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, 34 — навучэнцамі тэхнікумаў.

Падчас своеасаблівай экскурсіі па дзяржынскай школе прыемна ўразілі цудоўна абсталяваныя кабінеты педыятра, стаматолага, працэдурны. Такіх няма нават у самых лепшых сталічных школах. Да таго ж, школа заўсёды славілася спартыўнымі традыцыямі. Тут ёсць два басейны: для маленькіх і старшакласнікаў. Па праграме кожнаму класу адводзіцца 2 гадзіны ў тыдзень на заняткі ў басейне, чатыры — на фізкультуру.

Прыйшлі на ўспамін словы выдатнага ўкраінскага педагога В. Сухамлінскага, што школа, як магніт, павінна прыцягваць вучняў сваім цікавым, змястоўным жыццём, што толькі ў такіх умовах і вучоба можа прыцягваць, як магніт.

Пад пільнай увагай і школьнае харчаванне вучняў. З дапамогай Цэнтра экспертызы харчавання, што ў Мінску, склалі меню, каб яно адпавядала ўсім нормам. Дзеці атрымліваюць сокі, гародніну. Бацькам жа гэта каштуе нядорага: 70 працэнтаў выдаткаў аплачвае дзяржава.

А як складваюцца адносіны дырэктара з калегамі? Ці падтрымліваюць яны яе памкненні і рэформы?

— Адносіны роўныя, добрыя, — кажа Лілія Іванаўна. — Неяк адна настаўніца сустрэла сваю калегу з другой школы, і тая ў яе спытала, ці праўда, што ў школе вельмі патрабавальны дырэктар і вельмі цяжка працаваць. Я пацікавілася, які быў адказ, і пачула: "Цяжка, але цікава". Гэтыя словы мне вельмі дарагія.

Жыццё паказала, што мы выбралі правільны шлях. Удалае размеркаванне спартыўных заняткаў, правільнае харчаванне — і дзеці здаровыя. Звычайна мясцовыя дактары на час эпідэміі грыпу закрываюць школы на каранцін. А ў нас няма такой патрэбы, бо амаль ніхто не хварэе. Два гады назад на базе нашай школы нават праводзіўся рэспубліканскі семінар "Здароўе школьніка" па прафілактыцы інфекцыйных захворванняў.

Дык хто ж больш адказвае за выхаванне дзяцей: бацькі ці школа? Думаецца, сапраўдны выхавальнік той, хто аддае моладзі больш сваіх душэўных сіл і намаганняў, як гэта робяць у адной са старэйшых школ Беларусі — Дзяржынскай № 1.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

ВАНДРОЎКА З Ігарам ГАТАЛЬСКІМ

# ПАДАННІ АСТРАВЕЧЧЫНЫ

Імкліва цячэ па беларускай, а потым і літоўскай зямлі Вілія-Вялля. Па мяжы Беларусі і Літвы цячэ і рачулка Вялейка. У іх сутоку размешчана былая сталіца Вялікага княства Літоўскага Вільня — кажучы словамі У. Жылкі, "крывіцкая Мека", сучасная сталіца Літвы. Бліжэй за іншыя раёны Беларусі да Вільні знаходзіцца Астравецкі. Яго перасякаюць некалькі шляхоў, што вядуць на Вільню: водны — па рацэ Віліі, старажытныя сухапутныя, званыя Баторавым і Чорным, а таксама чыгуначны — Лібава-Роменская каляіна, пракладзеная ў 1873 годзе.

Адзіная чыгуначная станцыя на Астравеччыне — Гудагай. Назву яна атрымала ад недалёкай вёскі Гудагай. Тапаніміcты выводзяць гэтую назву ад племені готаў. У часы вялікага перасялення народаў якраз за готаў прымалі балцкія плямёны, што спрадвеку жылі на гэтай зямлі, вандроўнікаў-славян (нездарма літоўцы і цяпер неафіцыйна называюць беларусаў гудамі). А паданне кажа, што некалі на месцы вёскі Гудагай стаяла леснічоўка, а ў ёй быў цудадзейны абраз Маці Божай. Звалася гэта месца "будай у гаі". Казалі яшчэ, што аднойчы татары, якія жылі недалёка адсюль, напалі на смаленскіх купцоў, што кіраваліся ў Вільню. Сярод нарабаванага скарбу быў і гэты абраз, яго татары пакінулі ў леснічоўцы. Пазней абраз змясцілі ў спецыяльна пабудаванай капліцы, і ён стаў славіцца цудамі. У 1764 годзе паводле жадання магната Юзафа Войны і ягонай жонкі Людвікі з Сулістроўскіх у Гудагай з Вільні прыехалі манахі-кармеліты і заснавалі кляштар. Драўляны касцёл, пабудаваны ў той жа час, захаваўся і, дзякуючы змешчанаму ў ім цудадзейнаму абразу, з`яўляецца месцам паломніцтва шматлікіх вернікаў.

Каго хвароба мучыць
і сціскае —
Аж смерць прадчасна
вось-вось абыймае, —
Той у Гадагаях знойдзе
цуд-апеку,
Што Матка Боска сведчыць
чалавеку!
О Маці Божа, што у Гадагаі,
Здароўя просім, плёну,
ураджаю,
Цябе мы клічам прад Божым
парогам,
Ты заступіся за намі прад
Богам!
(З верша Вінцука Адважнага).

Асабліва многа паломнікаў тут 16 ліпеня, у напрастольнае свята Маці Божай Гудагайскай.

Дарогу ад чыгуначнай станцыі да гудагайскага касцёла перасякае старажытны тракт, званы ў народзе Чорным. І не толькі з-за таго, што на ім татары абрабавалі купцоў. З XV стагоддзя распавядаюць тут гісторыі аб дзіўных забойствах пры гэтай дарозе.

...Пяць стагоддзяў таму жыў у ваколіцах Астраўца пан Русіноўскі з жонкай і трыма дочкамі. Старэйшая выйшла замуж і займалася сям`ёй і гаспадаркай. Сярэдняя, нягледзячы на ўгаворы сваякоў, сышла ў кляштар і стала нявестай Хрыстовай. У 1497 годзе, адбіваючыся ад нападу крымскіх татар, загінуў пан Русіноўскі. Неўзабаве памерла і ягоная жонка. Гаспадыняй маёнтка засталася малодшая дачка Ядвіга. Не маючы глыбокіх пачуццяў, яна выйшла замуж за ўдаўца Хадзевіча. А праз два гады, па дарозе дадому, ён быў забіты ўдарам кісцяня ў лоб. У хуткім часе ў гэтых мясцінах з`явілася шмат ахвяр лютых бандытаў. Людзей не проста рабавалі, але забівалі, рэзалі, палілі. Шлях на Вільню сталі зваць Чорным.

Сам вялікі князь Аляксандр загадаў злавіць бандытаў і даручыў гэтую справу вядомаму суддзі Ваньковічу. Тэрмін даў — месяц. Суддзя, які не меў нераскрытых злачынстваў, сказаў: "Альбо злаўлю зграю бандытаў, альбо ўласнай шабляй перарэжу сабе вены". З першай сустрэчы Ваньковіч закахаўся ва ўдаву Ядвігу. Яна таксама была гатовая аддаць суддзі сваю руку і сэрца. Ужо прызначылі дзень вяселля. Але трэба было схапіць злачынцаў...

У суседнім маёнтку пана Сабейкі з`явіўся аднекуль тузін добрых хлапцоў, якія сталі піць-гуляць і выхваляцца, што пераб`юць бандытаў і забяруць іхняе багацце. Справакаваныя злачынцы не прамінулі з`явіцца да Сабейкі — і былі схоплены падрыхтаванымі да такіх падзей малайцамі — агентамі Ваньковіча. А калі з павадыра бандытаў знялі шлем, суддзя ўбачыў... сваю нявесту Ядвігу.

Яе пакаралі смерцю ў кастрычніку 1507 года на галоўнай плошчы Вільні. Перад смерцю Ядвіга сказала Ваньковічу: "Сумна мне было жыць. Я мусіла нарадзіцца рыцарам — бацька чакаў сына. Ды, відаць, д`ябал перашкодзіў. Гэта я сама забіла свайго першага мужа. А потым ужо нікога не шкадавала. Цябе ж, суддзя, кахала пасапраўднаму. Ды чакала, калі споўніш клятву — пакончыш з сабой. І я пайшла б за табой у дамавіну — таксама перарэзала б сабе горла..."

Двор Русіноўскіх пасля гэтых падзей суседзі спалілі, попел развеялі па ветры. А назва Чорны шлях засталася. І як працяг тых даўніх трагічных падзей успрымаецца сапраўдная гісторыя самазабойства таленавітага мастака Льва Дабжынскага, які жыў на гэтым жа Чорным тракце ў маёнтку Лоша.

Слова "лоша" па-літоўску абазначае рыбу стронгу. Мабыць, яе багата было ў рацэ Лошы, што цячэ па Астравеччыне. Пры Чорным тракце, каля моста праз Лошу, па адзін бок размясцілася вёска Лоша, па другі — драўляная капліца з невялікім цвінтаром побач. Капліца была родавай пахавальняй Дабжынскіх, уладальнікаў маёнтка Лоша, які знаходзіўся на ўскрайку вёскі і да сённяшняга часу не захаваўся. У капліцы быў пахаваны Антон Дабжынскі — царскі дарадца і сенатар, які, тым не менш, спачуваў нацыянальна-вызваленчаму руху. На жаль, у пасляваенны час капліца стаяла без нагляду і спарахнела. Толькі нядаўна яе аднавілі. Не захавалася і надмагільная пліта Антона Дабжынскага. Ягоны ўнук Леў (названы так у гонар Льва Талстога, з якім Дабжынскія былі ў сваяцтве) меў вялікія здольнасці мастака. У Рушчыца і Штурмана Леў Дабжынскі навучаўся ў Віленскім універсітэце. Настаўнікі параілі яму прадоўжыць навучанне ў Парыжы, але ніхто не мог даць мастаку грошай на гэта. Даведзены да роспачы, трыццацігадовы Леў Дабжынскі акурат напярэдадні сваёй персанальнай выставы ў Вільні з адчаю застрэліўся ў лістападзе 1937 года. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося атрымаць дазвол пахаваць самазабойцу на цвінтары фамільнай пахавальні Дабжынскіх.

Лашанскія краявіды займалі галоўнае месца ў творчасці мастака. Невялікая частка яго твораў знаходзіцца ў Вільні і Гданьску. Нядаўна сястра мастака, доктар медыцыны, польская пісьменніца Надзея Бітэль-Дабжынская перадала некалькі карцін Льва Дабжынскага ў лашанскі Дом культуры. У пачатку 90-х гадоў на яго магіле пастаўлены новы помнік.

За капліцай Дабжынскіх, перад мостам праз Лошу, ад Чорнага тракта налева, адыходзіла дарога да маёнтка Анялін. Старыя дубы ля крутога берага Лошы паказваюць месца былой сядзібы. Няма ўжо там ніякіх будынкаў, няма і вялізнага дубовага крыжа пры ўездзе ў маёнтак. Крыж гэты, паводле падання, быў усталяваны і асвячоны напярэдадні паўстання 1863 года, калі ў Анялін прыехалі Кастусь Каліноўскі, Уладзіслаў Сыракомля, Алена Маеўская і іншыя вядомыя асобы. На падставе гэтай гісторыі ўраджэнец тых мясцін, славуты беларускі навукоўца і пісьменнік Адам Мальдзіс напісаў аповесць "Восень пасярод вясны". Быў захоплены гэтай гісторыяй і Уладзімір Караткевіч, калі гасцяваў у А. Мальдзіса. Шкада, што задума пісьменніка напісаць раман "Крыж Аняліна" так і засталася нязздзейсненай.

Роднаму кутку Беларусі прысвяціў сваю кнігу "Астравеччына, край дарагі..." Адам Мальдзіс. Ён піша: "Смею сцвярджаць, што, акрамя Навагрудчыны і, можа, Мазыршчыны, такіх прыгожых мясцін, як на Астравеччыне, няма ў Беларусі нідзе. Тое ж самае сведчылі мне дзесяткі іншых людзей, што пабывалі тут — фалькларысты, мовазнаўцы, мастацтвазнаўцы, гісторыкі. Сведчыў, зачараваны выгінастымі берагамі Лошы, Уладзімір Караткевіч, не забываючы пры гэтым, вядома, падкрэсліць перавагі свайго Падняпроўя..."


*Касцёл у Гудагаі.*


*Леў ДАБЖЫНСКІ (аўтапартрэт).*


*Магіла Льва Дабжынскага ў Лошы.*

КНІГАЗБОР

## «ДЗЯРЭЧЫНСКІ ДЫЯРЫЮШ» У ВІЛЬНІ

Міхася Скоблу добра ведаюць беларусы Вільні, ён тут неаднойчы бываў, перадачу пра яго паказвала літоўскае тэлебачанне ў рубрыцы "Партрэт". Ён аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, а апошні — "Вочы Савы" стаў для мяне настольнай кнігай. Міхасю пашчасціла быць земляком славутай Ларысы Геніюш. Нядаўна, калі чытала ў газеце "Голас Радзімы" ўрыўкі з новай кнігі М. Скоблы "Дзярэчынскі дыярыюш", падумала: мне такую кнігу хацелася б мець у сваёй прыватнай бібліятэцы. І нечакана атрымала ад аўтара каштоўны падарунак — яго апошнюю кнігу. І адразу пачаліся "вандроўкі" ў гістарычнае мінулае мястэчка Дзярэчын XVII стагоддзя.

У кнізе таксама змешчаны эсэ пра вядомых беларускіх літаратараў Ларысу Геніюш, Наталлю Арсенневу, Рыгора Барадуліна, Пімена Панчанку. Пра іх шмат напісана, але кожная звестка аўтара асабліва цікавая, бо ён амаль з кожным быў асабіста знаёмы. Кніга карысная для шырокага кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй сваёй краіны. Толькі далёка не ў кожнага жадаючага будзе магчымасць яе набыць ці нават прачытаць: выдадзена кніга толькі ў колькасці 1 200 асобнікаў.

Я ж з дапамогай "Дзярэчынскага дыярыюша" М. Скоблы адкрыю яшчэ адну старонку гісторыі нашай Бацькаўшчыны вучням беларускай школы ў Вільні. Будзем чакаць новых сустрэч і новых кніг аўтара.

**Леакадзія МІЛАШ.**

АСОБА



Званне народнай артысткі Рэспублікі Беларусь нядаўна прысвоена актрысе Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Людміле Лаўрыновіч. Пасля заканчэння Мінскага тэатральна-мастацкага вучылішча яна каля двух дзесяцігоддзяў іграе на сцэне. Гэта ролі ў сотнях спектакляў, у асноўным — галоўныя. Дыпломамі за лепшую жаночую ролю адзначана яе праца ў спектаклі "Чайка" на фестывалі "Белая вежа" ў Брэсце і "Суцяшальнік удоў" — на "Славянскіх тэатральных сустрэчах" у Чарнігаве.

Сёлетні тэатральны сезон гамяльчане пачалі прэм`ерай "Жульен і Каломба" па п`есе французскага драматурга Жана Ануя. І зноў у галоўнай ролі мадам Аляксандры — Людміла ЛАЎРЫНОВІЧ (на здымку).

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.**

## ГЛАСНЫ ЯКУЦКАЙ

**У 1936 годзе ў Якуцку падчас правядзення рэвізіі архіва было выяўлена "Дело 5 ГУР ЧеКА ЯАССР Никифоровского Дм. Дм. о контрреволюционном заговоре. Нач. 15.XII—19 г. Окон. 30.XI—20 г." з пашкоджанымі вадою старонкамі.**

УНОЧ з 14 на 15 снежня 1919 года салдаты Якуцкага мясцовага гарнізона пачалі мяцеж. Яны захапілі турму, вызвалілі зняволеных бальшавікоў і раззброілі атрад асобага прызначэння. Выпушчаныя на волю бальшавікі і прыхільная ім вучнёўская моладзь адразу захапілі гарадскую тэлефонную станцыю і тэлеграф. Гэтай жа ноччу на пажар дома Аверынскага на Базарнай вуліцы сабраліся амаль усе прадстаўнікі калчакаўскай улады ў горадзе, якія нават не здагадваліся аб пераварoце. Паўстанцы скарысталі гэта, акружылі раён пажару, без асаблівага шуму паасобку арыштавалі іх ды адправілі ў турму. Атрадам В. Катэнкі быў арыштаваны гласны Якуцкай гарадской думы Д. Нікіфароўскі, што жыў у доме Казанцава па вуліцы Нікольскай, і адпраўлены ў турму. Да 6 гадзін раніцы ўся ўлада была ў руках паўстанцаў. Стварылі новы орган савецкай улады — Якуцкі ваенна-рэвалюцыйны штаб Чырвонай Арміі. Бальшавікі таксама адразу стварылі следчую камісію па справе арыштаваных контррэвалюцыянераў, куды ўвайшоў і сын былога камандзіра паўстання ў Мінскай губерні ў 1863 годзе Багдан Чыжык.

Д. Нікіфароўскі нарадзіўся ў 1875 годзе ў Віцебскай губерні ў сям`і святара. Ад 23 гадоў ён пачаў займацца прыватнай адвакатурай у акрузе Санкт-Пецярбургскай судовай палаты, а з 1907 года ў акрузе Іркуцкай судовай палаты, а потым у Якуцкім акруговым судзе. 2 снежня 1917 года Д. Нікіфароўскі, патомны ганаровы грамадзянін, выбіраецца ад Якуцкай філіі партыі "Народнай свабоды" ў "Камітэт грамадзянскай бяспекі", старшынёй якога быў Рыгор Пятроўскі, той самы, што 3 сакавіка 1918 года як удзельнік савецкай дэлегацыі на перамовах з Нямеччынай падпісаў дагавор аб Брэсцкім міры. Ужо ў лютым 1918 года Якуцкая абласная рада абвясціла Якуцкую вобласць самастойнай, незалежнай ад Савецкай Расіі і Сібіры, ды адмовілася падначальвацца цэнтральнай савецкай уладзе і "Цэнтрасібіры". Але 1 ліпеня 1918 года сфарміраваны ў Іркуцку "Польскі чырвоны атрад" на чале з Апалінарам Рыдзінскім, памочнікам у якога быў 19-гадовы ўкраінец Васіль Катэнка, штурмам узяў Якуцк. Абласную Раду звергглі, а ўлада перайшла да Якуцкага Савета рабочых дэпутатаў. Дарэчы, А. Рыдзінскі, ураджэнец Варшавы, пасля рэвалюцыі 1905 года хаваўся ад паліцыі ў Невелі Віцебскай губерні, працаваў буфетчыкам у Валкавыску, а ў 1914 годзе, калі быў прызваны ў войска, загадваў гаспадарчаю часткаю шпіталя ў Брэсце. Але ў жніўні савецкую ўладу ліквідавалі, а 26 сакавіка 1919 года Нікіфароўскі абраны гласным Якуцкай гарадской думы і вылучаны ў сябры "Эканамічнай Нарады" пры ўрадзе Калчака.

19 лютага 1920 года рэвалюцыйны трыбунал, створаны камуністамі Якуцка, прыгаварыў да расстрэлу 13 калчакаўцаў, арыштаваных у ноч на 15 снежня 1919 года, у тым ліку і капітана Каменскага, упаўнаважанага камандуючага войскамі Іркуцкай ваеннай акругі па Якуцкай вобласці.

На допыце ў ЧК Нікіфароўскі паказаў, што "ніякіх адносін да Каменскага" не мае. І хоць следчая



РАДАВОД

# БАЦЬКОЎСКІ САД

— Як тут добранька, — не раз гаварыла маці, калі я прыязджаў у родную хату. — Выйду раненька, калі толькі сонца ўсходзіць. Ціха ў садзе, свежа. Не надыхацца, не нарадавацца. І нічога ў свеце мне больш не трэба. Толькі мой сад, мой агарод тут у вёсцы, дзе прайшло ўсё жыццё.

І я, прыехаўшы, таксама адразу ішоў у сад. Водар непаўторны. Буйная раса серабрыцца на траве, на кустах агрэсту, парэчак, маліны. І спевы птушак я часта слухаў у садзе. Яны рабілі ў ім гнёзды, выводзілі птушанят. Я заглядваў у іх гняздзечкі, любаваўся блакітнымі яечкамі, а пасля назіраў, як падрасталі, станавіліся на крыло малыя.

Сад жыў сваім адвечным прыродным жыццём. Распускаліся дрэвы, брынялі пупышкамі, абліваліся белізной квецені, даспявалі крамянымі яблыкамі — белым налівам, каштэлямі, грабштэйнам, грушамі-цукроўкамі, слівамі... Сад заўсёды даваў шмат пладоў, ягад. З яго маці жыла. З яго ўсе мы жылі, калі былі ў Скідзелі, у бацькавай хаце. Пасля разляцеліся па свеце. А маці засталася.

— Нікуды я не паеду, — горача гаварыла яна, нібы яе вось-вось збіраліся некуды везці. — Ні ў Харкаў да Люды, ні ў Гродна да Валі, ні да цябе, Коля, у Мінск. Тут век пражыла, тут і памру.

Цяжка даўся маім бацькам сад. Бацька, старэйшы за брата і сястру, вярнуўшыся з бежанства, дзе асірацелі, жыў з імі ў адрыне. Яны ледзь канцы з канцамі зводзілі. Але, ажаніўшыся, Іван надумаў будаваць хату: іншага выйсця не было, у дзеда Якуба і так поўная хата дзяцей. Зямлі бацьку дасталася няшмат, усяго адзін гектар. І ён рашыў узяць з яго ўсё, што можна. Адзін год больш як палову зямлі занялі гароднінай. Вырučаныя грошы пайшлі на будоўлю.

Тую будоўлю я ўжо помню. Бацька з братам Грышам абпілоўвалі бярвенні на сталюзе, а я падбіраў апілкі. Запомнілася, як клалі печ. Мне даручылі падкладваць дровы ў пячурку — круглую такую, з дзверцамі ўнізе; стаяла яна на пяску пасярод хаты. Я стараўся запіхнуць у яе трэску, а пячурка завалілася, і каструля з вадой з яе ўпала. Я спалохаўся, а бацька зарагатаў. Засмяяўся і пячнік Даніла.

Майстрам Даніла слыў адмысловым. Ён быў жанаты з Вольгаю — сястрой маёй маці. Жыў у Пузавічах, за два кіламетры ад Скідзеля. У ліпені 1943 года гітлераўцы спалілі ўсю вёску, жыхароў расстралялі. Загінулі і Даніла з цёткай Вольгай. Печы, пастаўленыя ім, людзям служаць і сёння. І ў нашай хаце печ працуе бездакорна аж з 1937 года, а Даніла стаў прататыпам аднаго з лепшых апавяданняў Янкі Брыля "Memento mori".

Перайшлі ў хату ад дзеда — толькі паслаўшы падлогу. Астатняе дабудоўвалі паступова. І тут выручаў сад ды агарод. Маладыя дрэўцы пачалі даваць плады, а ў агародзе лапушылася капуста, падрасталі агуркі, даспявалі памідоры. Ішлі яны на рынак. Помню (каня ў нас не было), як бацька запрогся ў пазычаны воз, нагружаны гароднінай, цягнуў яго, а маці і я падштурхоўвалі ззаду.

Бацька хутка разгортваў сваю садова-агародную гаспадарку. Ён захапіўся гэтай справай, палюбіў яе. Перапісваўся з савецкімі мічурынцамі, яны дасылалі яму насенне лепшых гатункаў, саджанцы. А калі ў 1937 годзе перайшоў мяжу каля Стоўбцаў, ратуючыся ад польскай дэфензівы, жыў некаторы час у Мінску, таксама наладзіў сувязі з аматарамі-садоўнікамі. Вярнуўся і трапіў у турму ў Путрышках каля Гродна. У тых мясцінах зноў жа для саду тое-сёе расстараўся.

Праз некалькі год сад стаў такім, якім трызніў бацька.

Чатыры рады пладовых дрэў — прыкладна сорак, між імі больш як сто кустоў агрэсту, з двух бакоў каля плота чорныя і чырвоныя парэчкі, маліна. Свая школка — саджанцы пладовых дрэў.

І — экзоты. Тры абрыкосавыя дрэвы. Прысадзістыя, з густой кронай, такой, што пад яе сонца не прабівалася і трава не расла. Ад пладоў дрэвы былі жоўтыя. І пад імі — жоўта ад абрыкосаў. Скідляне не ведалі, што гэта за "фрукты", спрабавалі, крывіліся. Ды і кансерваваць тады не ўмелі, закатачных накрывак не ведалі. Маці збірала кошык-другі аранжава-яркіх пладоў, несла іх у хлеў — карміць парсюка.

Гэта ўжо было без бацькі, які загінуў у 1943 годзе ў канцлагеры Штутгоф. Абрыкосы раслі да 1949, ад моцных маразоў два дрэвы загінулі, адно яшчэ трохі пратрымалася і засохла.

Вінаград, пасаджаны бацькам, дае ягады і сёння. Пладаносяць і тутавыя дрэвы.

Завёў бацька цэлую парніковую гаспадарку. Пад зашклёнымі рамамі расла цудоўная расада памідораў, капусты. Яе высаджвалі ў сваім агародзе і прадавалі. А пасярэдзіне парнікоў садзілі насенне... кавуноў і дыняў. Яно ўзыходзіла, доўгія ліяны пакрываліся лапушыста-разным лісцем і невялічкімі пладамі. Расада да таго часу выкарыстоўвалася, а кавуны і дыні ў цяпле пад шклом раслі цудоўна. На дзень рамы здымалі (калі было сонца), а на ноч накрывалі імі паўднёвыя расліны. Вырастала кавуноў і дыняў шмат. Аднойчы бацька ўзяў мяне з сабой у Гродна. Мы на дзедавым возе, нагружаныя прысмакамі, выехалі яшчэ ноччу, каб раніцай быць на рынку. Кавуны і дыні раскупілі хутка.

Мінулі дзесяцігоддзі. Частка дрэў састарэла, іх замянілі новымі. Неяк маці пайшла ў сад і на пні засохлай яблыні сабрала... вядро апенькаў.

Паўвека таму я, збіраючы грыбы ў лесе, убачыў вакол пасадкі соснаў прыгожыя дрэўцы са светлай хвояй. Адно выкапаў ножыкам, прынёс дахаты, пасадзіў каля брамы. Прыжылася лістоўніца, цяпер гэта вялізнае дрэва. Нядаўна заўважыў пад ім грыбы, назбіраў больш дзесятка маслякоў.

Многае ў мяне звязана з бацькавым садам. Шмат розных падзей адбылося ў ім. Я дапамагаў маці даглядаць яго. У ім я пад раскідзістай каштэляй, лежачы на густой духмянай траве, рыхтаваўся штогод да школьных экзаменаў. У 1942 годзе завітаў да нас паліцыянт Дурнеўскі, запатрабаваў аддаць гранаты, патроны, дыск ад ручнога кулямёта. Усё гэта схаваў у школцы брат маці Міша. Ён быў у маладзёжнай падпольнай арганізацыі, якую выдаў былы лётчык. Восем хлопцаў (Міша ацалеў, бо яго забралі ў Германію) у верасні таго ж года гітлераўцы павесілі на плошчы ў Скідзелі. Відаць, нехта з іх ведаў пра Міхасёву схованку і сказаў пра яе на допыце. Я доўга аднекваўся ад Дурнеўскага: не ведаю ніякіх патронаў. Толькі бацька ўгаварыў паказаць, дзе яны. А другую схованку (у малінніку пад сцяной адрыны, якая ўтыркалася ў наш сад) я не паказаў; калі ў 44-м прыйшлі чырвонаармейцы, тыя патроны аддаў ім. Была і яшчэ адна схованка: у акоп каля нашага саду Міша і я паклалі скрыню гранатаў, засыпалі. Пасля вайны не знайшлі той акоп, гранаты недзе так і ляжаць.

...Прыязджаючы ў Скідзель, ходзячы па яго ціхіх вуліцах, я многае згадваю. І любуюся вінаграднымі лозамі каля дамоў. Прыемна, што некаторыя жыхары гарадка ўзялі прыклад з майго бацькі — і вырошчваюць вінаград, іншыя экзоты, абсадзілі свае дамы садамі. Памяць, памяць...

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# Міхаіл ЖЫЛЮК:

# «Я НЕ СВЕЧКА, АЛЕ ГАРУ»

***Заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, саліст Нацыянальнага акадэмічнага вялікага тэатра оперы і балета Міхаіл ЖЫЛЮК размяняў шосты дзесятак. Яго жыццё — гэта сцэна, якой ён аддаў усё. Таму першае пытанне спеваку пра яго працу ў тэатры:***



У ролі Фігара.

**— Міхаіл Аляксандравіч, вы бліскуча спелі партыю Роберта ў "Іаланце" Чайкоўскага, увесь Мінск хадзіў на вашага Фігара ў "Севільскім цырульніку" Расіні, вы непаўторны князь Ялецкі ў "Пікавай даме"... Адкрыйце сакрэт, якая ж з партый для вас самая любімая!**

— Сёння ідуць рэпетыцыі "Паяцаў" Леанкавала. Любімая партыя Доніо. Учора была "Чыо-чыо-сан" Пучыні. Унікальны матэрыял. Такая праца! Я там — консул Шарплес. У "Візіце дамы" беларускага кампазітара Сяргея Картэса — бургамістр. Я не магу падзяліць маіх герояў на любімых і нелюбімых, усе яны мне дарагія, як дзеці бацьку.

**— Кожны саліст марыць пра запаветную партыю. І вы, напэўна, не выключэнне!**

— Канечне. Мару пра ролю князя Ігара ў оперы Барадзіна. Праўда, гэтага спектакля яшчэ трэба дачакацца. Але я аптыміст і збіраюся жыць доўга. Галоўнае, захаваць форму, не згубіць голас — вельмі далікатны інструмент, на які ўсё ў жыцці ўплывае: страта блізкіх, няўдачы і проста дрэннае надвор'е. Ёсць людзі, якія эканомна расходуюць свае сілы. Я — не такі. Мне заўсёды трэба быць у гушчыні падзей, бегчы да каго-небудзь на дапамогу, каб там было цёпла, светла, радасна. Без справы я хварэю. Таму і ў шэрыя будзённыя дні жыву адпаведна словам аднаго вядомага паэта: "Я не свеча, но я горю"...

**— Міхаіл у перакладзе з грэчаскага азначае "богападобны". Раскажыце пра тых, хто даваў вам гэтае імя. Можа вы ў бацькоў навучыліся пець!**

— Вельмі ўдзячны бацьку і маці за такое простае, няхітрае імя, якое мне вельмі падабаецца: неяк прачытаў, што яно заўсёды злучае чалавека з нябёсамі. Асабіста я кожны дзень пачынаю з таго, што прашу Госпада даць магчымасць папрацаваць на карысць людзям і Айчыне. Прашу, каб дараваў душэўныя сілы, каб пражыць гэты дзень, не схлусіўшы, не пакрыўдзіўшы тых, хто побач. Засмучаюся, калі бачу ў сваіх думках і ўчынках нямала такога, ад чаго трэба пазбавіцца. Але духоўная барацьба складаная, дрэннае ў сабе не так лёгка выкараніць.

Нарадзіўся і вырас я ў невялікім закарпацкім сяле з прыгожай назвай — Вялікі Бярэзны. Бацька быў ляснічым, а мы з мамай і братам яму дапамагалі. Сям'я лічылася па тых часах адукаванай. Шмат чыталі. Па вечарах пелі песні. У бацькі быў добры барытон, ён любіў рамансы і ведаў іх мноства. Я стараўся пераймаць "з голасу". Назаўсёды запомніў нашы ўтульныя "славянскія вечары". Працяжныя песні. Патэфон, пласцінкі з запісамі вялікіх спевакоў. У школе ўдзельнічаў у хоры, часта саліраваў. Марыў стаць артыстам. З гэтай марай і прыехаў у Мінск. Днём працаваў на камбінаце буйнаблочных канструкцый слесарам, ліцейшчыкам, а ўвечары спяшаўся ў Палац культуры прафсаюзаў на заняткі ў вакальную студыю Веры Фамічэнкі. "Табе трэба вучыцца ў кансерваторыі", — сказала яна і адвяла ў клас народнага артыста БССР Міхаіла Зюганава. Той мяне выслухаў і "вынес прысуд": "З гэтым голасам можна і трэба працаваць".

Міхаіл Акімавіч, як скульптар адсякае ў глыбе лішняе, выпраўляе ўсе шурпатасці, штампы, шліфаваў і адточваў гук майго голасу. Неўзабаве любімы выкладчык захварэў. Я прыйшоў яго наведаць, а ён кажа: "Міша, гэта сур'ёзна. Баюся, не змагу табе дапамагчы. Перавядзіся ў Маскоўскую кансерваторыю".

У Маскве быў вялікі конкурс, але я вытрымаў усе тры туры праслухванняў і трапіў у клас знакамітага прафесара і незвычайнага чалавека — Гуга Ціца. Мне шанцавала на добрых людзей, якія заўсёды накіроўвалі мой лёс па лепшым шляху. Пасля заканчэння кансерваторыі прыйшоў выклік з Мінска. Паехаў, не раздумваючы, і вось ужо хутка чвэрць века, як спяваю ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета Беларусі.

**— Ваша жыццё ўдалося!**

— Канешне, я ж займаюся любімай справай. Праўда, на жаль, сёння такі час, калі прафесіяналізм не ў пашане. Знаёмыя не вераць, што вядучы саліст оперы атрымлівае ў месяц заработнай платы 50 долараў. Аднак ці варта наракаць: многія цяпер у Беларусі маюць значна менш. "Крутых", хітрых, карыслівых, несумленных таксама хапае. Шукаць сярод іх мецэнатаў, якія б спрыялі мастацтву, дарэмна. Карміць сям'ю дапамагае праца ў Акадэміі музыкі. Тры дні ў тыдзень займаюся са студэнтамі, цяпер у мяне, як у юнацтве, бываюць сесіі, экзамены, залікі...

**— Жыць гэта дапамагае. Але ж, відаць, перашкаджае асноўнай працы. Як пець пасля заняткаў? У дзень спектакля оперныя спевакі стараюцца наогул маўчаць, зберагаюць голас.**

— Спяваць дрэнна я не маю права. Таму ў любых абставінах памятаю пра голас. Графік заняткаў склаў так, каб у дзень, калі спяваю ў оперы, навучальны працэс адбываўся ў глядзельнай зале. Заўсёды кажу студэнтам: голас — гэта іх "Страдывары", які яны павінны нагружаць беражліва. Але, здараецца, на сцэну трэба выходзіць пасля гора, узрушэнняў — спектаклі ж не адмяняюць з-за жыццёвых нягод артыстаў. І вось тут часта адчуваеш дапамогу з неба. Аднекуль з'яўляюцца сілы, і толькі што дрыготкі голас набывае моц. Не саромеюся расказваць пра гэта студэнтам Духоўнага вучылішча — будучым рэгентам, псаломшчыкам, чытальнікам, пеўчым. Яны выдатна мяне разумеюць.

**— З якімі беларускімі кампазітарамі вас звязвае творчае сяброўства!**

— З Ігарам Лучанком мы аб'ездзілі з канцэртамі ўвесь былы СССР. Люблю выконваць творы Генрыха Вагнера, патрыярха беларускай музыкі Анатоля Багатырова, а таксама маіх аднакурснікаў па кансерваторыі Леаніда Захлеўнага, Валерыя Іванова, Алега Соніна. Падабаюцца песні і музычныя творы Юрыя Семянякі — светлая яму памяць. Зараз выконваю ў філармоніі вакальны цыкл з пяці твораў Багатырова на вершы Петруся Броўкі.

**— Вахтанг Кікабідзе спявае: "Мои года — мое богатство..." Якія думкі прыходзяць да вас!**

— Вялікі Цэзар, паміраючы, загадаў, каб яго рукі склалі далонямі ўгару. Ён хацеў усім паказаць, што не ўзяў з сабой ні золата, ні брыльянтаў. Яны — нішто, марнасць у параўнанні з Вечнасцю. Ёсць каштоўнасці іншыя — дабрыня, сумленнасць, любоў да людзей. І калі ты ў сваёй душы накапіў такі бясцэнны дар — гэта і будзе сапраўднае багацце. У мяне ёсць сябры. Я ім вельмі патрэбны. У мяне шмат "крылатых" сяброў — любімых мелодый, арый, песень. Люблю жывапіс, паэзію, прыгожыя, рукамі зробленыя рэчы. Сам некалі сур'ёзна захапляўся апрацоўкай камянёў — бірузы, малахіту. Займаўся чаканкай. Не згубіў смаку жыцця, таму магу сказаць: "Я — багаты чалавек".

**Таццяна ХРАПІНА.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ

**Дом майстра-ўмельца можна пазнаць здалёк. Усё жыццё працаваў інспектарам-кадравіком Максім БАРЭЙША з вёскі Нямержа Драгічынскага раёна, а калі выйшаў на пенсію, змайстраваў такарны станок і даў волю рукам — разнастайнай точанай мэблі нарабіў, рознымі вырабамі дом упрыгожыў.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



камісія 25 красавіка 1920 года выявіла, што Нікіфароўскі "пры ліквідацыі савецкай улады ў 1918 годзе не прымаў удзелу..." бо "...ездзіў у Омск", следства працягвалася. 5 мая 1920 года Нікіфароўскі звяртаецца з просьбаю да ўпаўнаважанага Сібірскага рэвалюцыйнага камітэта М. Амосава: "Прашу Вас, ці не знойдзеце вы магчымым замест астрожнага зняволення ўзяць мяне пад хатні арышт". Да справы вызвалення мужа падключылася таксама Паўліна Нікіфароўская, 1885 года нараджэння. 19 мая 1920 года яна наіўна піша ў Якуцкі рэвалюцыйны штаб: "Я по состоянию своего здоровья не могу заниматься никаким физическим трудом, а между тем, не имея прислуги и вообще помощницы, всё домашнее хозяйство, как стряпанье, стирка белья, мытье полов и т. п., поневоле заставляет меня, с ущербом для своего здоровья, исполнять непосильный труд, благодаря чему я окончательно выбилась из сил и слегла в постель. Кроме того я шестой месяц не имею личных средств, должна была многое продать не только на предмет существования, но и на лечение. На основании вышеизложенного прошу Штаб, т. к. за моим мужем по заключении следственной комиссии, никакой вины не числится, освободить его из тюрьмы и этим хоть отчасти облегчить моё материальное положение и дать возможность спокойно отдаваться лечению и отправлению куда-нибудь для неизбежной операции". Відаць, такога роду хваробы выклікалі ў якуцкіх чэкістаў толькі смех, а не рашэнне вызваліць мужа. Да таго ж, нейкі крымінал супраць Нікіфароўскага быў знойдзены, бо 12 ліпеня 1920 года ён быў "освобожден по поводу выезда из Якутска в Иркутск с уполномоченным Иркутской Губернской Чрезвычайной Комиссии, ВЧК. Документы с ним". Далейшы лёс нашага земляка пакуль невядомы. Хутчэй за ўсё, яго напаткаў такі ж, як і іншых, лёс "без віны вінаватых"...

**Алесь БАРКОЎСКІ.**

# ГАРАДСКОЙ ДУМЫ

## СІТУАЦЫЯ

*Роўна дзесяць гадоў назад у звычайнай мінскай школе № 156 быў створаны дзіцячы вакальны ансамбль "Званочкі". Сёння гэты калектыў заваяваў любоў прыхільнікаў далёка па-за межамі нашай краіны: ансамбль гастраляваў у Польшчы, Германіі, Расіі, двойчы пабываў у Італіі. Дарэчы, там "Званочкі" выступалі разам з вядомай фольк-групай "Палац" і пасля канцэрта былі нават прадстаўлены папе рымскаму. А зусім нядаўна яны вярнуліся з Санкт-Пецярбурга, дзе з поспехам удзельнічалі ў міжнародным конкурсе "Дзень нараджэння".*



# «ЗВАНОЧКІ» Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ

Праўда, ансамбль не змог самастойна прафінансаваць паездку ўсяго саставу, таму Валянціна Сярых, кіраўнік "Званочкаў", прывезла на конкурс толькі траіх сваіх выхаванцаў — Яраслава Казлоўскага, Юлю Гаўрыс і Кацю Адамовіч. І зноў поспех! Непаседа Яраслаў, якому напярэдадні конкурсу споўнілася дзесяць гадоў, проста пакарыў журы сваім яркім і непасрэдным выкананнем песні Алега Чыкуна на словы Валянціна Мысліўца "Сена маладое" і стаў лаўрэатам конкурсу. Дзяўчаты таксама былі адзначаны дыпломамі міжнароднага тура.

Зараз Валянціна Сярых успамінае, што гэта было сапраўднае, яркае свята. Праўда, засмуціла адно: ніхто з беларусаў Санкт-Пецярбурга не адгукнуўся на яе просьбу наведаць канцэрт і "пабалець" за сваіх землякоў, хаця тут жа былі шматлікія прадстаўнікі грузінскай, армянскай, якуцкай дыяспар. А калі ўсе яны высыпалі на сцэну і пачалі віншаваць сваіх дзяцей — стала і ўвогуле крыўдна.

Але галоўнае, што, нягледзячы на ўсе складанасці, "Званочкі" зноў аказаліся на вышыні. Мы віншуем іх з юбілеем і чарговай перамогай у міжнародным конкурсе.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**


Яраслаў КАЗЛОЎСКІ.


Ансамбль "Званочкі".

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### РАСІЯ

**Паважаныя супрацоўнікі газеты "Голас Радзімы"! Дзякуй за вашу ўвагу да беларускай дыяспары ў Расіі. Поспехаў у справах на карысць нашай Радзімы!**

**Васіль ДАВЫДОЎСКІ,**
**прэзідэнт архангельскай**
**рэгіянальнай грамадскай арганізацыі**
**"Зямляцтва "Беларусь".**

## НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

Карыстаючыся прапановай рэдакцыі ("Голас Радзімы" № 51, 1999 г.) да сваіх чытачоў даць кароткі адказ на тры пытанні святочнай анкеты, адкажу коратка на першае:

**"Якая падзея, на вашу думку, аказала найбольш моцны ўплыў на гісторыю Беларусі ў XX стагоддзі!"**

На маю думку, рэвалюцыі 1905, Лютаўская і Кастрычніцкая 1917 года, якія знайшлі свой водгук і на Беларусі. Асабліва Кастрычніцкая рэвалюцыя і яе дэмакратычны падыход да народаў Расеі далі беларускаму народу надзею "людзьмі звацца". У лістападзе 1917 года Ленін апублікаваў "Дэкларацыю правоў народаў Расіі", у якой гаварылася аб роўнасці і суверэннасці; аб праве народаў на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы; аб свабодным развіцці нацыянальных меншасцей і г. д.

Пачынаючы з 1920 года, у БССР шмат што было зроблена ў галіне навукі, культуры, беларусізацыі і дзяржаўнага будаўніцтва. Каб не дапусціць эканамічнага крызісу, Ленін увёў новую эканамічную палітыку (НЭП), і яна сябе апраўдала. Здавалася, што абяцанні Леніна застануцца трывалымі ў жыцці народаў СССР і сярод іх Беларусі. Аднак так не сталася. Сталін паказаў сапраўдны твар камунізму. Увесь культурны набытак, які Беларусь асягнула ў 20-х гадах, у 30-х быў жорстка знішчаны разам з ягонымі стваральнікамі.

Нельга сказаць, што ўсё гэта рабіў Сталін. Многа было на Беларусі расейскіх шавіністаў, якія прылажылі сваю руку да знішчэння ўсяго беларускага, каб замяніць расейскім.

Нельга прамінуць і другую сусветную вайну, якую Сталін назваў Вялікай Айчыннай. Яе пачаў Гітлер, але немалая тут "заслуга" і Сталіна, які быў шчырым прыяцелем Гітлера. Гэтая вайна (як і па вайне і перад вайной) каштавала многа жыццяў беларусаў. Хто не загінуў у часе вайны, то зносіў мукі ГУЛАГа. І толькі пасля смерці Сталіна пачалі вызваляць і рэабілітаваць вязняў.

1991 год. Віскулі. Беларусь атрымала сваю дзяржаўную незалежнасць. Але ад 1996 года яна пачынае вяртацца ў залежнасць ад Расеі, як гэта было стагоддзі раней. Такое было XX стагоддзе на Беларусі, і такой яна ўваходзіць у XXI стагоддзе.

Англія, Лондан.

**Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ.**

## НАТАТКІ ЯЎГЕНА ЛЕЦКІ

# ДОТЫК ЖЫВОЙ ДУШЫ

(Пачатак на 1-й стар.).

Шчыра дзякуючы ўсім за добрыя пажаданні, хачу запыніць увагу на перадкалядin размове са спадаром Расціславам Завістовічам, які жыве ў Вашынгтоне і з'яўляецца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў нязменным старшынёй адной з самых аўтарытэтных і ўплывовых беларускіх грамадскіх арганізацый у замежжы — Беларуска-Амерыканскага кангрэсовага камітэта. Не надзіўлюся мудрасці гэтага чалавека. Ён жа, апрача чыста беларускай грамадскай дзейнасці, вядзе рэй у асяроддзі іншых амерыканскіх этнасаў, узначальваючы камісію пры кангрэсе ЗША па нацыянальных меншасцях, і па сваіх грамадскіх абавязках часта сустракаецца з вышэйшым кіраўніцтвам дзяржавы. Іншы на ягоным месцы задраў бы галаву высока, аж да самых "аблокаў". Ды сп. Расціслаў Завістовіч да такіх не належыць. Бо найчасцей задзіраюцца пустыя галовы...

Гаворкі з маім старэйшым сябрам заўжды лагодзяць душу, узвышаюць і акрыляюць, даюць дадатковы стымул жыцця і тварэння, веру ў тое, што Беларусь, пакуль ёсць такія людзі, сапраўды будзе жыць не толькі ў вядомым закліку, але і ў паўсядзённым рэальным жыцці.

Мяркую, што і нашым афіцыйным асобам не зашкодзіла б пасупольнічаць і пасумоўнічаць з людзьмі такога вопыту і становішча, якія могуць шмат разумнага падказаць. Але пытанне: пра якую Беларусь размаўляць і якую дзяржаву ў будучыні мець на ўвазе? Ці пра годную і незалежную, са сваёй, самім Богам спрадвеку нам дадзенай мовай, самабытнай нацыянальнай культурай, ці такую, якая можа быць аб'ектам гандлю і мае шанцы з паўнапраўнага суб'екта сусветнай палітыкі зноў ператварыцца ў бяспраўную Папялушку, якую, у лепшым выпадку, можна толькі пашкадаваць. У такім разе, глыбока перакананы, ніякага, як цяпер кажуць, канструктыўнага дыялога не атрымаецца. Бо зусім іншая пазіцыя, зусім іншыя погляды на Беларусь у Валянціна Грыцкевіча з Пецярбурга, Леха з Масквы, Ігара Шаховіча з Калінінграда, Міхася Байкачова з Ноўгарада, Алеся Пятруннікава з Манчагорска, Алега Рудакова з Іркуцка, Паўла Атрушкевіча з Казахстана, Барыса Цімошчанкі з Львова, Петруся Капчыка з Хмяльніцка, Іны Снарскай з Палтавы, Уладзіміра Дзяржыцкага з Малдовы, Хведара Нюнькі і Аляксея Анішчыка з Вільні, Пятра Малафея з Шальчынінкая, Вячкі Целеша, Алеся Карповіча і Сяргея Кузняцова з Рыгі, Анатоля Лапышава з Таліна, Маргарыты Астравумавай і Зінаіды Клыга з Котхла-Ярве, Яўгена Вапы і Пятра Крука з Беластока, Яна Чыквіна з Бельска-Падляшскага, Кастуся Майсені з Гайнаўкі, Алены Глагоўскай з Гданьска, Алеся Барскага і Ніны Баршчэўскай з Варшавы, Янкі Жучкі з Бельгіі, Міхася Навумовіча з Францыі, Лёлі Міхалюк і Аляксандра Надсона з Вялікабрытаніі, Уладыкі Ізяслава, Антона Шукелойця, Веры Запруднік, Зоры і Вітаўта Кіпеляў, Кастуся Мерляка, Францішка Бартуля з Нью-Йорка, Юркі Навумчыка з Саўт-Рывера, Веры Рамук, Міхася Каленіка і Міколы Латушкіна з Чыкага, Ірэны Каляды, Янкі Раковіча і Янкі Ханенкі з Кліўленда, Міколы Прускага з Гранд-Рэпідса, Язэпа Арцюха з Торанца, Раісы Жук-Грышкевіч, Уладыкі Мікалая, Кастуся Акулы з Таронта, Анатоля Храноўскага з Квебека, Паўла Гуза, Яўгена Грушы, Алега Шнэка з Мельбурна, Міхася Лужынскага з Сіднэя, Міхася Раецкага з Пэрта, Колеса з Адэлаіды...

Назваў тут кіраўнікоў беларускіх суполак, так званых юрыдычных асобаў, прытым далёка не ўсіх, а толькі асабіста мне добра знаёмых, за каго я (хоць тут магчымыя ў асобных адным-двух выпадках і нечаканасці, ад якіх, як вядома, ніхто не застрахаваны) магу, як за сябе, паручыцца, з кім мы разам стваралі і мацавалі нашу ўсенацыянальную супольнасць — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Ды, на глыбокі жаль, перажывае яно цяпер не тое што не лепшыя часы, а пры новым кіраўніцтве апынулася на мяжы распаду. Амаль ні ў чым рэальным не праяўляе жыццядзейнасці. Старшыня Рады вось ужо некалькі месяцаў, як з'ехала з Беларусі. А таму ёсць патрэба правесці, калі не чарговы з'езд, дык хоць бы пасяджэнне Вялікай Рады, рэарганізавацца і пайсці наперад шляхам, якім ішло згуртаванне, пачынаючы ад Устаноўчай канферэнцыі, што адбылася ў лістападзе 1989 года, дзесяць гадоў назад. Аднак гэтая юбілейная дата мінула пры поўным маўчанні, нібы і не было нічога: ні першага Сходу беларусаў блізкага замежжа, ні першага З'езда беларусаў свету, ні многіх іншых, няхай і менш значных, але цікавых і патрэбных для нашага яднання і адраджэння мерапрыемстваў. Прычына вельмі простая: цяперашняе кіраўніцтва проста ў панічным страху, боязі варушыць набалелае, сказаць беларускай сусветнай супольнасці праўду ў вочы. Але раней ці пазней яна будзе сказана, бо, як вядома, шыла ў мяху не схаваеш.

Аднак вернемся да рэчаў больш вясёлых і светлых, звязаных з навагодне-калляднымі святамі. Што датычыць пісьмовых віншаванняў, то я, вядомая рэч, хачу зрабіць грамадскім набыткам, падзяліцца з чытачамі толькі тымі, якія маюць шырэйшы, чым мае асабістыя дачыненні з адрасатамі, сэнс. Яны належаць людзям, што пражылі цікавае і змястоўнае жыццё, адыгрываюць істотную ролю ў сённяшніх справах на эміграцыі. Некаторыя, як наш славуты і, перакананы, адзін з лепшых пісьменнікаў сучаснасці Масей Сяднёў, даслалі віншаванні і мне асабіста, і ў "Голас Радзімы", дзе яны былі змешчаны. Ну а двойчы ўзнаўляць віншаванні нібыта і не выпадае, хоць яны і арыгінальныя. Таму пачну ці не з самых мне дарагіх людзей у далёкім замежжы — спадарства Пашкевічаў, што жывуць у сталіцы Канады Таронта.

Дасведчаныя ў філалогіі людзі ведаюць, што Валянціна Пашкевіч з'яўляецца аўтаркай грунтоўнай, у 2-х тамах, граматыкі-падручніка беларускай мовы, прызначанай для навучання англамоўных школьнікаў і студэнтаў. Зусім нядаўна яна завяршыла працу над таксама грунтоўным англа-беларускім слоўнікам. Яе муж Міхась працаваў звычайным рабочым на заводзе. Але дай, Божа, нам тут у Беларусі такіх рабочых, інтэлігентаў не па адукацыі, не па дыплому, а па прызванню, па сваёй унутранай духоўнай сутнасці. Зароблены цяжкай фізічнай працай грошы спадар Міхась у асноўным траціў на набыццё беларускамоўных кніг і перыядычных выданняў. А ў выніку — ягоная бібліятэка ці не самая багатая сярод прыватных у беларускім замежжы і адна з самых багатых і цікавых у свеце, гэта значыць, уключаючы і саму Беларусь. Сёння спадарства Пашкевічы — людзі паважанага ўзросту, ім за семдзесят. Але, шаноўны чытач, звярніце ўвагу, як шчыра хвалюецца спадар Міхась пра высланыя мною кнігі, якія дзесьці затрымліваліся на акіянскіх прасторах, і як ён шчыра ўзрадаваўся, атрымаўшы доўгачаканы падарунак. Шчасця Вам, дарагія, доўгіх, без хваробаў, гадоў жыцця!

*"8 сьнежня 1999 г.*

*Дарагі спадару Лецка!*

*Вітаем Вас і ўсю Вашу сямейку з надыходзячымі Калядамі ды з Новым, 2000 годам і зычым усім удачы і ўсяго найлепшага ў жыцьці, а перадусім здароўя!*

*З глыбокай пашанай і ўдзячнасьцю да Вас Валянтына і Міхал Пашкевічы.*

*P.S. Бандэролю з энцыклапедыяй і іншымі кніжкамі, якую Вы мне ў сваім часе выслалі, яшчэ не атрымаў. Як выглядае, загінула дзесь у дарозе. Вялікая была-б шкода.*

*М. П."*

*"17 сьнежня 1999 г.*

*Толькі-што атрымаў Вашу бандэролю з "Беларускай энцыклапедыяй" (8-мы том), "Шапэн" М. Дуброўскага і іншымі кнігамі. Бандэроля ў дасканалым стане. Вельмі цешуся, а Вам, дарагі спадару, шчыры дзякуй.*

*З глыбокай пашанай да Вас Міхал Пашкевіч".*



ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКІЯ ЯЎРЭІ Ў ІЗРАІЛІ

● **Эмануіл ЮФЕ**, *акадэмік Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей, прафесар, доктар гістарычных навук.*

**14 мая 1948 года на палітычнай карце свету з'явілася новая краіна — Дзяржава Ізраіль, з'яўленне якой стала вынікам доўгага і складанага працэсу па стварэнню нацыянальнага ачага на гістарычнай радзіме, а таксама ўмелым выкарыстаннем новых гістарычных умоў пасля перамогі антыгітлераўскай кааліцыі над германскім фашызмам.**

Сярод дзеячаў, якія вялі вялікую практычную работу па стварэнню ў Палесціне незалежнай яўрэйскай дзяржавы, было нямала беларускіх яўрэяў.

Адным з лідэраў сусветнага сіяніцкага руху і першым прэзідэнтам Дзяржавы Ізраіль быў ураджэнец мястэчка Моталь Кобрынскага павета Гродзенскай губерні (цяпер в. Моталь Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці) Хаім **Вейцман** (1874—1952).

Арганізатарам яўрэйскай абароны ў падмандатнай Палесціне, адным з заснавальнікаў і кіраўніком Хаганы (асновы будучай Арміі Абароны Ізраіля) быў Эліяху **Галомб** (1893—1945). Ён нарадзіўся ў горадзе Ваўкавыску Гродзенскай губерні. Сёння ў Тэль-Авіве, у хаце, дзе жыў Галомб, створаны музей Хаганы, названы яго імем. Тым, хто ўнес найвялікшы ўклад у забеспячэнне нацыянальнай бяспекі Ізраіля, прысвойваецца прэмія імя Эліяху Галомба.

Першым міністрам транспарту Ізраіля, а потым міністрам адукацыі і культуры быў ураджэнец мястэчка Копысь Горацкага павета Магілёўскай губерні Давід **Рэмез** (Моша-Давід Драбкін) (1886—1951). Яго імем названы раён буйнога горада краіны Хайфы — Рамат-Рэмез. Сын Д. Рэмеза — Ахарон быў першым камандуючым ваеннапаветранымі сіламі Ізраіля ў 1948—1952 гадах.

Першым міністрам фінансаў Дзяржавы Ізраіль, а потым і намеснікам прэм'ер-міністра краіны стаў мінчанін Эліазер **Каплан**, а першым міністрам сельскай гаспадаркі — Агарон **Цізлінг**, які нарадзіўся паблізу Мінска.

У маі 1948 года ў якасці члена Народнага праўлення Дэкларацыю незалежнасці Ізраіля падпісаў Моша **Кол** (Калодны), які нарадзіўся ў Пінску ў 1911 годзе. У 1960-я — 1970-я гады гэты чалавек быў міністрам турызму і развіцця, міністрам турызму.

Членам Часовага дзяржаўнага Савета Ізраіля з'яўляўся ўраджэнец Ваўкавыска Зерах **Варгафціг**.

Яўрэі Беларусі прынялі актыўны ўдзел у станаўленні і далейшым развіцці Ізраіля ў 1950-я—1980-я гады.

Так, трэцім прэзідэнтам Ізраіля — з 1963 да 1973 года — быў Залман **Шазар** (Рубашоў) (1889—1974), які нарадзіўся ў мястэчку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1977—1983 гадах прэм'ер-міністрам Дзяржавы Ізраіль быў ураджэнец Бярэсця Менахем **Бегін**, якому ў 1978 годзе была прысуджана Нобелеўская прэмія міру. Такую ж пасаду ў 1983—1984 і 1986—1992 гадах займаў Іцхак **Шамір** (Язерніцкі), які нарадзіўся ў мястэчку Ружаны Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1980—1990-х гадах двойчы прэм'ер-міністрам Дзяржавы Ізраіль быў ураджэнец мястэчка Вішнева Валожынскага раёна, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1994 года Шыман **Перэс** (Перскі), які ў апошнія гады неаднаразова наведваў сваю малую радзіму ў Беларусі.

На працягу васьмі год (1961—1969) адказную пасаду генеральнага сакратара Гістадрута (кіраўніка прафсаюзаў Ізраіля) займаў ураджэнец беларускага горада Кобрына Агарон **Бекер**.

Самыя адказныя пасады краіна даверыла Хаіму-Мойшу **Шапіру**, які нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Гародні ў 1902 годзе. Ён быў першым міністрам абсорбцыі і аховы здароўя, а пачынаючы з 1949-га на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў працаваў міністрам унутраных спраў, міністрам па рэлігійных справах, міністрам абсорбцыі і аховы здароўя.

У гісторыю Ізраіля назаўсёды ўпісана імя вядомага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча, ураджэнца Бабруйска Кадыша **Луза** (Лазінскага). У 1955—1959 гадах ён быў міністрам сельскай гаспадаркі краіны, а потым на працягу дзесяці год (1959—1969) — старшынёй Кнесета (спікерам парламента). У час працы Луза ў міністэрстве сельскай гаспадаркі яго намеснікам працаваў Заеў **Цур** (Штэйн), які нарадзіўся ў вёсцы Крайск Лагойскага раёна Мінскай вобласці.

У 1958—1961 і 1961—1963 гадах начальнікамі генеральнага штаба Арміі Абароны Ізраіля з'яўляліся барысаўчанін Хаім **Ласкоў** і ўраджэнец мястэчка Заслаўе Мінскай вобласці Цві **Цур** (Чарценка).

Беларусь "падарыла" Ізраілю вядомых дыпламатаў Эліяху **Элата** — мястэчка Сноў Навагрудскага павета, Іосефа **Ткоа** (Тукачынскага) — Ляхавічы, Давіда **Бартава** (Гутэрмана) — вёска Моталь Іванаўскага раёна.

Беларускія яўрэі ўнеслі істотны ўклад у развіццё навукі і культуры Ізраіля.

Ураджэнец мястэчка Карэлічы Шауль **Адлер** (1895—1966) стаў вядомым у краіне ўрачом і вучонымпаразітолагам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Ізраіля. Вядомым ізраільскім вучоным-гісторыкам стаў Хаім Хілел **Бен-Сасон** (Дзерачынскі), які нарадзіўся ў беларускім горадзе Валожыне. Другі ўраджэнец Валожына Меер **Бар-Ілан** (Берлін) быў не толькі вядомым рабінам, але таленавітым журналістам, рэдактарам газет, выдатным палітычным дзеячам. Сёння імя Бар-Ілана носіць універсітэт у горадзе Рамат-Ган.

Ізраільская актрыса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Ізраіля, ганаровы доктар філасофіі Тэль-Авіўскага універсітэта Хана **Ровіна** нарадзілася ў мястэчку (цяпер горад) Беразіно Мінскай губерні. А ўраджэнка мястэчка Дрыбін Магілёўскай губерні Міа **Арбатава** стала прыма-балерынай і харэографам тэль-авіўскай "Опера Амаміт" ("Народнай оперы"). У 1990 годзе вучні Арбатавай заснавалі ў Ізраілі стыпендыю для маладых артыстаў балета і міжнародны конкурс яе імя.

У 1983 годзе званне ганаровага грамадзяніна Тэль-Авіва прысвоена аднаму з самых папулярных яўрэйскіх паэтаў і празаікаў, ураджэнцу беларускага мястэчка Смаргонь Аўрахаму **Суцкеверу**. У гады вайны ён быў удзельнікам антыфашысцкага падполля ў вільнюскім гета, а потым партызанам атрада ў нарачанскіх лясах. У 1963 годзе юбілейны камітэт на чале з прэзідэнтам Ізраіля З. Шазара выпусціў двухтомнік вершаў Суцкевера, а таксама зборнік артыкулаў аб яго творчасці з ізраільскай і сусветнай прэсы. Многія творы Суцкевера перакладзены на французскую, нямецкую, англійскую і іншыя мовы.

У Ізраілі заснавана прэмія імя І. Мангера, якая прысуджаецца пісьменнікам і дзеячам мастацтва за іх уклад у развіццё культуры на мове ідыш і ўручаецца прэзідэнтам краіны. У 1969 годзе лаўрэатам гэтай прэміі стаў А. Суцкевер. Потым ён быў удастоены прэміі кіраўніка ўрада, Дзяржаўнай прэміі Ізраіля (1985) і іншых прэстыжных узнагарод.

Яшчэ адным лаўрэатам прэстыжнай прэміі імя І. Мангера ў 1990 годзе стаў другі наш зямляк — ураджэнец горада Калінкавічы паэт Зяма (Зіновій Львовіч) **Цялесін** (1917—1996).

Культурна-рэлігійнае адраджэнне беларускіх яўрэяў суправаджалася іх эміграцыяй з Савецкага Саюза і Рэспублікі Беларусь, якая пачалася ў 1968 годзе і афіцыйна называецца "выездам на гістарычную радзіму". Сёння ў Ізраілі больш за 1 мільён чалавек (з 6 мільёнаў) складаюць выхадцы і іммігранты з былога Савецкага Саюза, краін СНД і Балтыі.

Калі ў 1968 і 1969 гадах з Беларусі эмігрыравала па 8 чалавек яўрэяў, то ў 1970 годзе — 109, 1971 — 598, 1972 — 424, 1973 — 225, 1974 — 271, 1975 — 249, 1977 — 953, 1979 — 2 712 і ў 1980 — 2 322 чалавекі. Затым з 1981 года з-за дзеянняў савецкага ўрада колькасць эмігрантаў з БССР была невялкай (1981 — 447, 1982 — 81, 1984 — 18, 1985 — 11, 1986 — 30). (Вышэй выкарыстаны даныя даследчыка з Польшчы Сяргея Мацюніна). З 1988 года эміграцыйны паток рэзка ўзрастае.

Адной з сур'ёзных прычын, якія стымулявалі эміграцыю беларускіх яўрэяў, з'явілася катастрофа на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і яе шкодныя вынікі. Калі ў 1989 годзе па афіцыйных даных эміграцыя з Беларусі ў Ізраіль склала ўсяго 1 121 чалавек, то ў 1990-м — 23 521, у 1991-м — 15 997, у 1992-м — 3 359, у 1993-м — 2 344 і ў 1994 годзе — 2 901 чалавек.

Па даных Кароткай яўрэйскай энцыклапедыі (Іерусалім, 1995), усяго за 1989—1994 гады з Беларусі выехала ў Ізраіль 49 243 чалавекі, або 34 працэнты ад усяго яўрэйскага насельніцтва ў 1989 годзе. На самай справе ўказаны працэнт не адпавядае рэчаіснасці, таму што сярод 49 243 чалавек, якія выехалі, значную колькасць склалі неяўрэі (беларусы, рускія, палякі). Не трэба забываць, што ў 1989 годзе сярод яўрэяў СССР змешаныя шлюбы склалі 68,5 працэнта, а ў БССР яшчэ больш.

**(Працяг будзе).**

---

А вось жывы голас прадстаўніка маладзейшага пакалення беларускай эміграцыі, прэзідэнта Беларуска-Амерыканскага цэнтра ў Саўт-Рыверы Юркі Навумчыка. Трапіў у ЗША разам з бацькамі малым хлапчуком. Працуе камп'ютэршчыкам ва ўстанове, а свабодны час прысвячае грамадскай дзейнасці. Некалькі гадоў запар, пачынаючы ад Першага з'езда беларусаў свету, прыязджае на Беларусь разам з сябрамі цэнтра, да якіх далучаюцца баларусы з іншых канцоў Амерыкі, а часам і з Аўстраліі, Еўропы, Канады і, зразумела, самой Беларусі. Едуць амерыканскія беларусы не з пустымі рукамі, а з гуманітарнай дапамогай. І мінулым летам таксама. Апрача гэтага, Юрка стараецца і ад сябе дапамагаць родным, сябрам, проста знаёмым. Чалавек ён незвычайнай дабрыні, мяккі характарам, памяркоўны і сціплы. Зарабляе, як на амерыканскія меркі, не Бог ведае якія грошы, жыве, як усе, хто мае працу, забяспечана. Калі не памыляюся, ужо трэці год з'яўляецца дзядулем, хоць знешне — па-маладому стройны і падцягнуты. Мабыць, цягам гадоў не знікае колішняя спартыўная вывучка і трэніраванасць у беларускіх футбольных і валейбольных дружынах, якія здабывалі перамогі ў спаборніцтвах з іншанацыянальнымі камандамі ЗША. Цяпер, апроч іншага, з'яўляецца выдаўцом часопісаў — "Беларуская думка" і "Царкоўны веснік".



*Як жа не вярнуцца чарговы раз на Беларусь, як жа не ўлюбіцца яшчэ раз у яе цёмныя салаўіныя ночы і гаючую ранішнюю расу, пабыўшы на Купаллі?! Юрка НАВУМЧЫК у час леташняга прыезду на Радзіму і прамяністая Любоў БАЛАЎНЁВА.*

*"13 сьнежня 1999 г.*

*Дарагі Яўген! Ліст Ваш, віншаваньні, календары і газэты атрымаў, за якія шчыра дзякую. Я, прачытаўшы, газэты адразу перадаў Міхасю Кавылю (паэт, рэдактар "Беларускай думкі". — **Я. Л.**), а ён перадасьць іншым. Адзін каляндар я дам Сеньку, а другі Цярпіцкаму.*

*У нас тут усё нармальна, па-старому. Рыхтуемся да сустрэчы 2000-га году і новага тысячагодзьдзя. Будзем сустракаць у нашым цэнтры. Спадзяёмся, што будзе каля 200 асобаў. Ізноў зайграе аркестр "Трыо сям'і Казакоў" на чале з Валяй Пархоменкай.*

*Пагода ў нас досыць яшчэ цёплая і ня было сьнегу. Час ад часу я езджу на мора на рыбу са сваім зяцем. Майму зяцю з сябрамі пашанцавала: яны налавілі шмат "туны", а гэта вельмі смачная рыба.*

*Здаецца, гэта ўсё, што думаў вам сказаць. На гэтым і закончу. Жадаю Вам не хварэць. Прывітаньне ўсім знаёмым і супрацоўнікам, зь якімі выдаяце газэту. Шчасьця Вам у новым годзе! Высылаю некалькі фатаграфіяў з нашай летняй вандроўкі і купальскай вечарыны ў Вязынцы пад Менскам.*

*З вялікай пашанай — Жорж".*

Чытачы, мабыць, памятаюць пра надрукаванае ў "Голасе Радзімы" слова жалобы на смерць Уладзіміра Сідлярэвіча з Мельбурна і Міколы Сазановіча з Якаранды, што непадалёку ад Сіднэя. Мікола, чалавек у найвышэйшым сэнсе інтэлігентны і абавязковы, заўжды віншаваў мяне са святамі. Сёлета, за што шчыры ёй дзякуй, даслала ад сябе, дзяцей і ўнукаў навагодне-калядное віншаванне ягоная жонка, а цяпер ужо ўдава Марыся, па нацыянальнасці немка, якая нашу мову засвоіла на ўзроўні разумення ў вуснай размове, але пісаць не навучылася. А таму паштоўка падпісана па-ангельску, якое я зусім не ведаю. А Міколаў лепшы сябра, Мікола Антух, які жыве ў Сіднэі, мовы, як і іншыя тамтэйшыя беларусы, не забыўся і не адцураўся.

*"Шчыра паважаны сп. Яўген!*

*Вялікі дзякуй за перасылку (календары, кніжкі і газэты), каторыя я ўчора атрымаў і пастараюся перадаць Лужынскаму і Алехніку. Якраз учора была ў нас Марыся Сазановіч, яна вельмі задаволеная, што Вы памятаеце і шануеце памяць яе мужа. Шкода, што ён рана адышоў ад нас, быў добры і слаўны сярод сваіх і аўстралійцаў. На яго паховінах было больш як 400 асобаў. Вечная яму памяць! Яшчэ раз дзякуй за ўсё. Маю надзею, што ў будучыні ўбачымся.*

*З Аўстраліі*

*Мікола і Валя Антухі".*

**(Працяг будзе).**

---

МУЗЫКА БЕЗ МЕЖАЎ



Уладальнікамі Гран-пры Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску сталі харэографы Гао Янжынзі і Ценг Аймін з Пекіна.

НА ЗДЫМКУ: Гао ЯНЖЫНЗІ і Ценг АЙМІН са сваім кіраўніком Вілі ЦАО СІНГ УЕН (у цэнтры).

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



Надоўга запомніліся гледачам дабрачынныя прадстаўленні, якія паказаў для людзей, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, японскі тэатр Мандзюсяка. Мандзюсяка — гэта белая кветка, якая распускаецца на нябёсах. Пра яе ходзіць паданне: "Хто ўбачыць яе, той развітаецца з дрэннымі ўчынкамі".

**ЛЕГЕНДА АЙЧЫННАГА СПОРТУ — Анатоль ЮЛІН**




*Анатоль ЮЛІН. 1948 г.*

**Спорт жыве эмоцыямі, якія нараджаюць міфы. А калі міфы атрымліваюць пацвярджэнне, яны становяцца легендамі. Анатоль Юлін даўно стаў легендай беларускай лёгкай атлетыкі. У гэтым годзе шматлікія вучні, сябры і прыхільнікі шумна адсвяткавалі яго 70-годдзе.**

# ЁН ПРОСТА ЖАДАЎ БЫЦЬ ПЕРШЫМ

## ПРА ШЧАСЦЕ «З НЕБА»

12-гадовы Толя шлёпаў ад дома ў вёсцы Мікетава да школы тры кіламетры ў любое надво'е. Калі проста шагам, а то і бягом — у залежнасці ад настрою. Але па-сапраўднаму адчуў цікавасць да фізкультуры, калі сям'я пераехала ў Тулу, дзе ў школе была і спартыўная зала, і сапраўдны футбольны мяч, які выдаваўся хлопцам толькі за асобыя заслугі. І то — старшакласнікам. Але калі 14-гадовы Юлін перамог у першынстве школы па скачках у вышыню і бегу на 400 метраў, перагнаўшы нават дзесяцікласнікаў, ён быў удастоены вышэйшай узнагароды: настаўнік фізкультуры даверыў яму ключы ад пакоя, дзе захоўваўся спартыўны інвентар. Цяпер ён з сябрамі ганяў мяч у двары школы да цемнаты і атрымаў мянушку "цыган". І тады ж вызначыў сэнс свайго жыцця: "Быць толькі першым"! А ў тыя цяжкія пасляваенныя гады ў гэта паняцце закладваўся не толькі спартыўны сэнс.

— У 1947 годзе, калі мне было 17 гадоў, — успамінае Анатоль Іванавіч, — упершыню папаўшы на спартыўныя зборы, зразумеў, што цяпер я самы шчаслівы на свеце чалавек: мне ж даюць снеданне, абед, вячэру, ды яшчэ перападае кавалачак масла і чай зусім салодкі. За гэта варта змагацца...

І Юлін становіцца нязменным чэмпіёнам горада, вобласці, пераможцам многіх занальных спаборніцтваў па лыжах і лёгкай атлетыцы. Раней жа так было прынята: летам лыжнікі прыходзілі на стадыён, а зімой лёгкаатлеты станавіліся на лыжы. Затое трэніроўкі былі круглы год, і гэта прыносіла вынікі. У 1949 годзе Анатоль выканаў нарматыў майстра спорту па бегу на 400 метраў з бар'ерамі, да таго ж стаў трэцім на чэмпіянаце СССР у бегу на 800 метраў і быў залічаны ў зборную каманду краіны.

— Калі пасля гэтых поспехаў я прыехаў дадому, — успамінае Юлін, — усе віншавалі, а я думаў пра інстытут фізкультуры. Да таго ж я ўжо пачаў разумець, што трэніровачны працэс — справа вельмі складаная, тут патрэбны веды і вопытныя настаўнікі. Але... у пагоні за спартыўнымі вынікамі займацца ў сярэдняй школе мне "не было калі", да таго часу асіліў толькі восем класаў. Ды і на экзамены ў маскоўскі інстытут фізкультуры я ўжо прыпазніўся. І тут успомніў: мой сябра Цімафей Лунёў, які тады вучыўся ў Мінску, запрашаў мяне прыехаць да яго, каб разам трэніравацца. Падумаў: ці першы раз на дахах вагонаў ездзіць?! І праз 13 гадзін такой язды ноччу я выйшаў на мінскім вакзале і накіраваўся шукаць будынак інстытута фізкультуры.

Бачу: стаіць сярод руін адзін цёмны дом, толькі на пятым паверсе некалькі светлых акон. Адшукаў уваход, падымаюся і чую шум... Так трапляю ў залу, дзе ідуць спаборніцтвы па валейболу. Праціснуўся бліжэй, і раптам Сямён Гетманец (ён тады быў загадчыкам кафедры лёгкай атлетыкі і лыжнага спорту) устае, просіць суддзю прыпыніць сустрэчу і гаворыць: "Таварышы! Да нас прыехаў з Тулы майстар спорту па бегу на 400 метраў з бар'ерамі Анатоль Юлін. Паапладзіруем яму!" І я адразу зразумеў: прыехаў куды трэба. На наступны дзень стаў "паралельным студэнтам" — тэхнікума і інстытута фізкультуры адначасова. Праўда, тэхнікум скончыў праз год, а інстытут — праз пяць. І да гэтага часу лічу, што тады на мяне з неба зваліўся шчасце: я знайшоў у Мінску другую Радзіму, сяброў, адукацыю, жыццёвы сэнс і дабрабыт, бо ўжо на другім курсе пачаў атрымліваць павышаную стыпендыю, як выдатнік, і мог абысціся без дапамогі бацькоў.

**Юрый ВАЛОШЫН.**

(Працяг будзе).



*Так выглядаў мінскі стадыён "Дынама" ў 1950 годзе.*

**ПРАДКАЗАННІ: ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ — ЯК НА ДАЛОНІ!**

**Сусветна вядомы пісьменнік-фантаст Артур Кларк просіць не называць яго "прарокам", хаця значная колькасць яго прадказанняў збылася.**

**На думку Артура Кларка, у трэцім тысячагоддзі чалавецтва чакае:**

**2002 год: на рынак энергарэсурсаў паступіць першая "чыстая", "бяспечная" энергія. Гэта будзе азначаць заканчэнне "нафтавай эры". Понз і Флейшман, якія адкрылі ў 1989 годзе"халодную" ядзерную рэакцыю, атрымаюць Нобелеўскую прэмію ў галіне фізікі;**

**2004: адбудзецца першае кланіраванне чалавека;**

**2009: адзін з гарадоў у краінах, якія развіваюцца, будзе знішчаны выпадковым уключэннем ядзернага ўстройства. Пасля кароткіх дэбатаў у ААН уся ядзерная зброя на Зямлі будзе ліквідавана;**

**2014: на каляземнай арбіце пачнецца стварэнне касмічнага атэля;**

**2016: усе цяперашнія грашовыя адзінкі будуць адменены. Адзінкай абмену стане мегават/гадзіна;**

**2019: у раёне Паўночнага полюса ўпадзе буйны метэарыт. Ахвяр у выніку сутыкнення не будзе, аднак моцнае цунамі нанясе ўрон прыбярэжным раёнам Грэнландыі і Канады;**

**2020: штучны інтэлект дасягне ўзроўню чалавека. З гэтай пары на Зямлі будуць прысутнічаць дзве інтэлектуальныя асобіны, прычым штучныя будуць развівацца значна хутчэй за біялагічныя;**

**2021: адбудзецца першая высадка чалавека на Марс, якая скончыцца не вельмі прыемнымі сюрпрызамі;**

**2023: з'явяцца кланіраваныя дыназаўры з генерыраваных камп'ютэрам ДНК;**

**2024: вучоныя атрымаюць інфрачырвоныя сігналы з цэнтра Галактыкі. Аднак расшыфраваць іх не ўдасца;**

**2025: нейрахірургічныя даследаванні прывядуць да разумення ўсяго жывога арганізма;**

**2057: адбудзецца свята ў гонар стагоддзя пачатку касмічнай эпохі — запуску Масквой першага ў гісторыі чалавецтва штучнага спадарожніка Зямлі;**

**2095: стварэнне касмічных караблёў, якія змогуць рабіць палёты з хуткасцю святла;**

**2100: гісторыя пачнецца зноў...**

**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ**



## КУПАЛАЎСКІЯ КАЛЯДКІ...

Так павялося, што кожны год на Каляды ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ладкуецца літаратурна-музычнае свята.

На гэты раз удзельнікамі свята былі школы, якія носяць імя народнага паэта. Гэта старэйшая ў сталіцы сярэдняя школа № 19, якой было прысвоена імя Янкі Купалы ў 1945 годзе, і сеніцкая, якой імя Янкі Купалы нададзена да 100-годдзя з дня нараджэння паэта.

Сёння моладзь свядома ідзе да вытокаў народнага духу, аднаўляе народныя традыцыі. Матывы амаль усіх беларускіх святаў, абрадаў і звычаяў сустракаюцца ў Купалавых вершах і паэмах. Захапляючую кампазіцыю па творах Янкі Купалы паказалі вучні 19-й сярэдняй школы.

Суцэльным, жывым, бурлівым каскадам песень, жартаў, скокаў абрынуліся гульні-забавы вучняў Сеніцкай школы Мінскага раёна. Яшчэ ў 1990 годзе тут пачаў працаваць этнаклас. Завуч Бярнарда Іванова разам з выкладчыкамі здолела зацікавіць вучняў добрай справай.

Своеасаблівай узнагародай сеніцкім "купалаўцам" сталі падарункі, якія ўручыў ад імя бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ, што створаны пры ТБМ, Змiцер Саўка.

На беларускай зямлі калядныя святы заўсёды былі жаданымі і радаснымі. У гэтыя дні ладзіліся забавы, гульні, гучалі песні, у якіх усхваляліся родны край, гаспадары зямлі. Усё гэта яскрава прадэманстравалі школьнікі і артысты-купалаўцы.

Хочацца пажадаць, каб гэта было добрым пачаткам традыцыйных сустрэч купалаўскіх школ у сценах музея вялікага песняра.

НА ЗДЫМКАХ: у віхуры танца хлопчыкі і дзяўчынкі з Сеніцы; спяваюць вучні 19-й мінскай школы.

**Ніна КАРАЛЮК,**
**Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА.**



**ПАЗНАВАЛЬНАЯ КРЫЖАВАНКА**

### БЕЛАРУСЬ І ЯЕ СУСЕДЗІ

Напішы назвы краін, з якімі мяжуе Рэспубліка Беларусь:

1. З паўночнага захаду.
2. З поўначы.
3. З поўдня.
4. З поўначы і ўсходу.
5. З захаду.

Запоўні вертыкальны слупок літарамі так, каб атрымалася слова.

**ЗАГАДКІ**

— Два браты адзін на аднаго глядзяць, а падысці не могуць.

(Берагі.)

— Ёсць у Бога коні — ніхто не суніме. Ёсць у Бога скрыня — ніхто не падыме.

(Вецер і зямля.)

— Расце ў лесе дрэва, на ім дванаццаць галінак, на кожнай галінцы па чатыры сучкі, на кожным сучку па сем лісткоў.

(Год, месяцы, тыдні, дні.)

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 178.
Падпісана да друку 24.1.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).